**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№17(681)**
**25 красавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Паводка на рацэ Беразвіца. Венецыянскія краявіды Глыбокага.**



## Полацкі раён

# У чарзе на прыватызацыю

■ Станіслаў Раманчук

**У гэтым годзе для нашай краіны складваецца няпростая эканамічная сітуацыя, паколькі істотна скараціўся знешнегандлёвы тавараабарот, нават з галоўным партнёрам Расіяй ён упаў на 11 %.**

У такіх умовах ураду Беларусі прыйшлося фарсіраваць тэмпы стварэння сумесных вытворчасцей і нават прадаць суседзям Мінскі завод калёсных цягачоў. Таксама ў рамках рэалізацыі сумесных з РФ праектаў інтэграцыі ўключылі сюды і вядучае прадпрыемства вобласці ААТ Наваполацкі "Нафтан". На яго ўжо даўно паклалі вока расійскія гіганты, кампаніі "Роснафта" і "Лукойл", але адзін з самых прыбытковых айчынных заводаў удавалася беларусам утрымліваць пад сваім кантролем. Праўда, пад ціскам суровых эканамічных абставін гэты нафтаперапрацоўчы комплекс уключылі толькі ў пералік аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі. У адрозненне ад аналагічных НПЗ у самой Расіі, навапалачане рэалізавалі ў сябе 22 буйныя інвестыцыйныя праекты, пачалі выпускаць бензін "Еўра-5" вышэйшай сусветнай якасці. Навейшыя тэхналогіі завадчане ўкаранілі ў сябе па ліцэнзіі амерыканскай кампаніі UOP. Ды і зараз заводская тэрыторыя нагадвае вялізную будаўнічую пляцоўку. Не прыпыняючы вытворчы працэс, тут бачны пад'ёмныя краны, шмат рознай тэхнікі. Намечаная праграма мадэрнізацыі і рэканструкцыі "Нафтана" разлічана да 2015 года, а пакуль у лёсе буйнейшага вытворцы дзяржканцэрна "Белнафтахім" і лепшага экспарцёра краіны намеціўся круты паварот у нязведанае.

## Гарадоцкі раён

# Дарога да храма

■ Чэслаў Якубовіч

**У адрозненне ад заходніх раёнаў вобласці ганебны час камуністычнага ваяўнічага атэізму пакінуў яшчэ больш разбураных і знішчаных святынь ва ўсходняй частцы Прыдзвіння.**

Значныя намаганні прыйшлося прыкласці і ў Гарадоцкім раёне, каб адрадзіць ранейшыя духоўныя каштоўнасці. З дапамогай сваёй зямлячкі, буйной расійскай прадпрымальніцы Анастасіі Асіцис тут пабудавалі і асвяцілі нядаўна праваслаўную царкву ў мястэчку Бычыха. Гэта абаяльная жанчына, дарэчы, стала і асноўным спонсарам устанаўлення ў абласным цэнтры бронзавага помніка свяцейшаму Патрыярху Маскоўскаму і ўсяе Русі Алексію II. У самім жа Гарадку, які стане ў будучым годзе сталіцай чарговых рэспубліканскіх "Дажынак-2014", зараз актыўна аднаўляюць да хлебаробскага свята яшчэ адзін праваслаўны храм. Цікава, што царква ў гонар святога апостала Андрэя Першазваннага размесціцца тут у гістарычным будынку былой коннай пошты. Памяшканне цудоўна захавалася, але мела патрэбу ў рэканструкцыі і аднаўленні. Мясцовы прыход быў зарэгістраваны толькі летам мінулага года, але паспелі правесці значны рамонт. Тут разлічваюць на дапамогу спонсараў і мецэнатаў, каб паскорыць стварэнне святыні. Дарэчы, зараз у Віцебскай вобласці дзейнічаюць 215 культавых установ толькі праваслаўнай царквы і яшчэ 15 аб'ектаў рамантуюцца і ўзводзяцца. Наш край служыць прыкладам талерантнасці веры, бо толькі ў гэтым стагоддзі на Віцебшчыне паўстаў і быў асвечаны яшчэ і 21 каталіцкі храм. Да іх сёлета дабавяцца касцёлы ў Дуброўне і ў самім абласным цэнтры.

## Пастаўскі раён

# Двойчы чэмпіёны Беларусі

■ Кастусь Александровіч

**Мала ў краіне знойдзецца такіх райцэнтраў, як Паставы, дзе б на высокім узроўні развіваліся гульнявыя віды спорту.**

Акрамя футбола ў гэтым горадзе вельмі папулярны валейбол, і вось ужо два дзесяцігоддзі мясцовая мужчынская каманда "Атлант-Д" з поспехам нязменна выступае ў першай лізе чэмпіянату Беларусі. Пастаўчане, дарэчы, ніколі там не былі ў ліку аутсайдараў, 7 разоў заваёўвалі медалі, а летась упершыню заваявалі званне чэмпіёнаў у другім па моцы айчынным дывізіёне. Прычым камплектуецца гэта каманда цалкам са сваіх выхаванцаў, за яе выступае толькі адзін вопытны валейбаліст з Віцебска. У гэтым годзе зноў пастаўчане, якіх трэніруе мясцовы спецыяліст Васіль Захарэвіч, зноў бліскуча правялі ўвесь сезон. У сапернiцтве з яшчэ 9 камандамі з буйных гарадоў краіны яны за тур да завяршэння першынства датэрмінова ў другі раз у сваёй гісторыі зноў заваявалі "золата" і прыгожы Кубак пераможцаў. Па ходзе спаборніцтваў пастаўскі "Атлант-Д" перамог сваіх сапернікаў у 28 з праведзеных 34 сустрэч і далёка адарваўся ад канкурэнтаў са сталіцы і другіх абласцей. Дарэчы, такі поспех – цалкам заканамерны, бо плённа працуе мясцовая валейбольная школа, адкуль выйшла нават трое ігракоў нацыянальнай зборнай Беларусі. Адзін з іх, майстар спорту Ігар Петрачэнка вярнуўся ў свой калектыў і дапамог землякам у рашаючых гульнях. Неўзабаве стане вядома, ці будуць Паставы абараняць гонар Віцебшчыны ў новым сезоне ў турніры мацнейшых каманд вышэйшай лігі.

# Аб самым надзёным

## ТУМАННЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ АЎТАМАБІЛЯЎ БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКАЙ ЗБОРКІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**По разліках экспертаў, завод "БелДжы" будзе эфектыўным пры выпуску ў год да 50 тысяч легкавушак. Загвоздка аднак у тым, што ўнутры Беларусі можна штогод забяспечыць продаж не больш 15 тысяч новых аўто такога класа. Болей наш рынак не пераварыць.**

Апошнім часам і беларусаў ахапіў сапраўдны аўтамабільны бум, бо практычна ў кожнай сям'і ёсць у гаражы хоць і патрыманая іншамарка. Праўда, уступленне нашай краіны ў Мытны саюз прынесла айчынным аўтамабілістам адны расчараванні. Пад дыктатам суседняй Расіі не новай, але яшчэ якаснай затоднай тэхніцы ўскладнілі паступленні на наш рынак і да нас адчувальна ўзмацніўся наплыў легкавых аўтамабіляў менавіта расійскай зборкі.

Адначасова з надыходам сёлетняй вясны з'явіліся і першыя ластаўкі – беларуска-кітайскія легкавушкі мадэлі Geely SC7. Як паведамілі айчынныя СМІ, за некалькі дзён у беларускай сталіцы ў аўтасалоне ААТ "Аўтагандальсервіс" ад Міністэрства прамысловасці з выстаўленых на продаж першых 16 машын прадалі адразу 7 аўтамабіляў. Іх зборка наладжана на арандаваных плошчах завода "Аўтагідраўзмацняльнік" у Барысаве. У красавіку планавалася ўжо рэалізаваць як грамадзянам, так і юрыдычным асобам да 40 адзінак тэхнікі.

Дарэчы, цяпер максімальная магутнасць дзеючага беларуска-кітайскага СП "Белджы" – 10 тысяч легкавушак у год. Аб яго стварэнні абодва бакі дамовіліся восенню 2011 года. Як бачна, працэс ідзе даволі імкліва і па дзеючай схеме разлічваюць да 2015 года з машынакамплектаў высокай заводскай гатоўнасці, выраблены у Кітаі, выпусціць з цэха зборкі амаль 29 тысяч легкавых аўтамабіляў. І вось тут пачынаецца самае цікавае, паколькі плануецца павелічэнне далей вытворчых магутнасцей па выхаду на гадавы выпуск ужо 60 тысяч аўто. Трэці этап мемарандума аб супрацоўніцтве з Кітаем прадугледжвае зборку штогод значную лічбу машын – нават 120 тысяч легкавушак.

На жаль, у дасведчаных спецыялістаў існуюць вялікія сумненні, ці станем мы сапраўднымі канкурэнтамі ў гэтым класе аўтамабіляў – расійскіх аўтазаводаў, якія выпускаюць розныя варыянты сваіх машын пад брэндам Lada. Цікава, што і ранейшыя аўтазборачныя праекты ў Беларусі цярпелі крах. Узгадаем спачатку выпуск у нас амерыканскіх Фордаў, потым - польскіх аўтагрузавічкоў і іранскіх Самандаў. Пытанне ў тым, ці вытрымаюць канкурэнцыю беларускія аўтамабілі "кітайцы" з аўто, выраблеными на заводах Расіі?

Зараз у дзяржавах Мытнага саюза больш высокім попытам карыстаюцца з-за адсутнасці так званай "растаможкі" і сярод расіян, казахаў і ў нас іншамаркі менавіта расійскай зборкі з-за больш нізкіх цэн. Забараніць, як раней, беларускім дзяржаўным прадпрыемствам і арганізацыям набываць тую ж бюджэтную "Ладу-Гранта" мы ўжо не можам, бо ўзялі на сябе пэўныя абавязацельствы ў рамках Мытнага саюза. Відавочна, што толькі інтарэс саміх расіян да набыцця кітайскіх легкавушак, сабраных у Беларусі, будзе забяспечваць поспех гэтага праекта.

Па разліках экспертаў, завод "БелДжы" будзе эфектыўным пры выпуску ў год да 50 тысяч легкавушак. Загвоздка аднак у тым, што ўнутры Беларусі можна штогод забяспечыць продаж не больш 15 тысяч новых аўто такога класа. Болей наш рынак не пераварыць. А ў рэжыме зборкі фактычна гатовых кітайскіх аўтамабіляў доўга жыць не будзеш ды і пры адсутнасці паўнацэннай дылерскай сеткі, адпаведнага сервіса, тых жа запасных частак. Апроч аўто расійскай зборкі нашы больш багатыя суседзі цяпер аддаюць перавагу машынам, вырабленым у Карэі.

Нельга забываць і аб тым, што рускія таксама маюць свой уплывовы аўтамабільны гігант АўтаВАЗ-Рэно-Ніссан, у іх працуюць таксама аўтазаводы Фольксвагена і Форда і чакаецца істотнае нарошчванне вытворчых магутнасцей па выпуску легкавушак і пэўнае зніжэнне цэн на іх. Вось і мяркуйце, ці ёсць у беларусаў нейкія шанцы, каб з кітайскімі машынамі прабіцца і замацавацца на неабсяжных расійскіх прасторах. Будзем аб'ектыўнымі: для выхаду новых пастаўшчыкоў аўто на рынак Расіі і таго ж Казахстана сітуацыя не вельмі спрыяльная, калі не сказаць болей. Ды і небагатыя беларусы добра падумаюць, аддаваць грошы за роднага "новага кітайца" альбо купіць больш танны Рэно ці Хюндай хоць бы і расійскай зборкі…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 25.04.13 | | | | Пятніца 26.04.13 | | | | Субота 27.04.13 | | | | Нядзеля 28.04.13 | | | | Пнд.29.04.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +7 | +12 | +8 | +2 | +7 | +11 | +11 | +5 | +6 | +8 | +7 | +4 | +7 | +12 | +8 | +1 | +7 | +13 |
| Ціск | 747 | 745 | 745 | 748 | 748 | 746 | 740 | 740 | 741 | 743 | 742 | 743 | 744 | 747 | 747 | 751 | 753 | 757 | 756 |
| Вільготнасць | 71 | 91 | 57 | 62 | 90 | 81 | 86 | 80 | 90 | 79 | 65 | 81 | 88 | 78 | 38 | 56 | 82 | 69 | 35 |
| Вецер м/сек | 5 З | 7 З | 9 Пн-З | 4 Пн-З | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 6 З | 2 Пн-З | 1 Пн | 1 У | 1 У | 2 Пн-У | 4 Пн | 5 Пн | 3 Пн | 3 Пн-У | 2 У | 2 Пд-У |

## Дзень за днём

**По прычыне недахопу сродкаў жыллёвая праграма па ўзвядзенні ў Беларусі сёлета 6,5 млн. кв. метраў жылля апынулася пад пагрозай зрыву. Крэмль даў Беларусі 2 млрд. USD, але не льготнага дзяржкрэдыту, а праз свой Збербанк РФ. Эксперты МВФ заявілі, што ўрад РБ вядзе барацьбу з крызіснымі з'явамі ў эканоміцы занадта непаслядоўна. Для пошуку беларускіх радовішчаў сланцавага газу выдзелілі 8 участкаў на Гомельшчыне і на Брэстчыне. А. Лукашэнка даручыў неадкладна распрацаваць праект пабудовы чыгункі да Нацыянальнага аэрапорта Мінск і зноў прыгразіў чыноўнікам турмой у выпадку перавышэння паўнамоцтваў. У ВНУ краіны прафесійна-псіхалагічнае субяседванне прайшлі 9125 юнакоў і дзяўчат.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кіпр.** Узнікшы фінансавы крызіс на востраве выкліча, па ацэнках спецыялістаў, да канца года страты даходаў вядучых еўрапейскіх банкаў у памеры 8 млрд. еўра (11 % прыбытку).

**Італія.** Як і чакалася, краіну ахапіў палітычны крызіс, партыі ў парламенце не могуць дамовіцца і сфарміраваць урад, цяжкасці ў эканоміцы, наперадзе вельмі цяжкі год.

**Польшча.** Глава МЗС Р. Сікорскі пацвердзіў, што палякі да канца года падпішуць з Украінай пагадненне аб свабодным гандлі, падтрымаюць грамадзянскую супольнасць РБ.

**Грэцыя.** У краіне стаў самы высокі ў ЕС узровень беспрацоўя – 26,4 %, наймелей у Аўстрыі (4,8 %), зараз у еўразоне без працы засталіся 19 млн. чалавек (12 % ).

**Кыргыстан.** Удзельнікі мітынгу ў Бішкеку паабяцалі закідаць тухлымі яйкамі і нават падпаліць пасольства Беларусі, якая не выдае асуджанага экспрэзідэнта К. Бакіева.

**Англія.** За распрацоўку ўнікальнага агрэгатара навін для смартфонаў кампанія Yahoo заплаціла ганарар 30 мільёнаў долараў 17-гадоваму брытанцу, праца над ім заняла ў яго 2 гады.

**Данія.** Амаль 900 тысяч дзяцей перасталі хадзіць у школы пасля забастоўкі настаўнікаў, якія б хацелі атрымоўваць болей 5 тысяч еўра цяперашняй штомесячнай зарплаты.

**Аргентына.** У краіне аб'явілі 3-дзённую агульнанацыянальную жалобу пасля надзвычай моцных ліўняў, паводка забрала жыцці 54 чалавек, асабліва пацярпеў горад Ла-Плата.

**КНДР.** Пасля пагроз пачаць ядзерную вайну хакеры ўзламалі афіцыйныя сайты яе кіраўніцтва і змясцілі на іх карыкатуры на Кім Чэн Ына ў выглядзе адкормленай свінні.

**ЗША.** Прадзюсерская кампанія Леанарда дзі Капрыо і Тома Хэнкса сумесна з HBO Films пачала працу над фільмам пра распад СССР і яго апошняга лідара М. Гарбачова.

**Куба.** Яшчэ 7 маладых танцораў Нацыянальнага балета краіны вырашылі не вяртацца дамоў з замежных гастроляў у Мексіцы, папрасілі палітычнага прытулку ў ЗША.

**Бразілія.** Усё больш правінцый краіны ахоплівае эпідэмія ліхаманкі дэнге, якой перахварэлі за 3 апошнія месяцы больш 635 тысяч чалавек, з іх 108 памерлі.

**Швецыя.** Кіраўнік праваабаронцаў краіны М. Угла прапанаваў не пускаць Беларусь у будучым на конкурс "Еўрабачання" за ігнараванне свабоды слова і норм дэмакратыі.

**Саудаўская Аравія.** Адпаведны камітэт каралеўства нарэшце дазволіў жанчынам ездзіць толькі, праўда, на матацыклах і на веласіпедах, але кіраваць аўтамабілямі ім нельга.

**Расія.** На малой радзіме ў вёсцы Алтайскага краю побач з адноўленай за свае сродкі царквой знайшоў вечны спакой на 72-м годзе народны артыст РФ Валерый Залатухін.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Не раней 2015 года, як заявіў намеснік міністра замежных спраў РБ А. Гур'янаў, Беларусь у лепшым выпадку зможа ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю.

**Салігорск.** У дзясятку самых паспяховых кампаній Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з прыбыткам за год 676 мільёнаў еўра ўвайшоў "Беларуськалій", "БелАЗ" быў на 43-м месцы.

**Мінск.** На тэрыторыі вобласці швейцарская кампанія "Штадлер Рэйн Групп" пачне выпуск не толькі электрычак, але і 2-павярховых цягнікоў для Расійскай чыгункі.

**Бабруйск.** На абноўленым заводзе масавых шын ААТ "Белшына" пад новым брэндам "Art Motion" пачала выпуск двух відаў новых пакрышак памерам ад 13 да 16 дзюймаў.

**Гомель.** ВА "Гомсельмаш" выйграла міжнародны тэндар на ўключэнне ў Карту фарсіраванай індустрыялізацыі Казахстана па выпуску там збожжаўборачных камбайнаў.

**Ашмяны.** За спробу незаконнага перасячэння дзяржаўнай мяжы Беларусі суд пакараў двух грамадзян Кот-д'Івуара 3 месяцамі арышту з наступнай дэпартацыяй і забаронай уезду.

**Брэст.** Вядомая кампанія "Санта Брэмар" стала выпускаць больш 500 відаў прадукцыі і за 52 мільёны долараў набыла сабе ў Расіі завод па перапрацоўцы рыбы ЗАТ "Рускае мора".

**Барысаў.** На заводзе "БелДжы" з кітайскіх у асноўным камплектуючых павінны за год вырабіць 10 тысяч легкавых аўтамабіляў, да канца 2015 года выпуск 28,9 тысяч машын.

**Пінск.** У дзіцячай гарбальніцы пасялілася нованароджаная дзяўчынкападкідыш, якую вечарам паклалі ў скрутку ля адной з кватэр дома і добра, што не выкінулі на сметнік.

**Маладзечна.** На сваім заводзе ў райцэнтры ААТ "Амкадор" выпусціла па ліцэнзіі польскай фірмы Mista аўтагрэйдар сярэдняга класу сусветнага ўзроўню для дарожнікаў.

**Мінск.** Даволі новы аўтавакзал сталіцы "Маскоўскі" будзе знесены за 35,2 мільёна долараў і на яго месцы "Газпрам" пабудуе да 2018 года шматфункцыянальны комплекс з гатэлем.

**Гродна.** У вёсцы Станевічы даведаліся аб смерці ва ўзросце 76 гадоў зямлячкі Барбары Пясецкай (Джонсан), яна ў ЗША стала адной з багацейшых жанчын свету (500 мільёнаў долараў).

**Рагачоў.** Па просьбе царквы правялі 2-гі па ліку раённы суботнік, заробленыя грошы пералічылі на заваршэнне будаўніцтва з 2009 года праваслаўнага храма А. Неўскага.

**Брэст.** 15-гадовая дзяўчына-інвалід з цэрэбральным паралічом пражыла 4 дні без ежы ў кватэры з памерлай маці, пакуль суседзі не ўзнялі трывогу, узламалі дзверы

**Мінск.** Усе расходы па пражыванні і харчаванні 16 каманд-удзельніц чэмпіянату свету 2014 года па хакеі, суддзяў, афіцыйных гасцей павінен аплаціць наш аргкамітэт турніра.

# У БЕЛАРУСІ ЎСТАЛЯВАНЫЯ НОВЫЯ ПАМЕРЫ МІНІМАЛЬНЫХ СПАЖЫВЕЦКІХ БЮДЖЭТАЎ



■ Алена Прус - БЕЛТА

**У Беларусі ўсталяваны новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў (МПБ) для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп у сярэднім на душу насельніцтва і на аднаго члена сям'і рознага складу ў коштах сакавіка 2013-га года. Пра гэта карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

Мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек з 1 траўня па 31 ліпеня бягучага года ў разліку на месяц складае Br 1 мільён 527 тысяч 270. Гэта амаль на 4,8% перавышае нарматыў, які дзейнічае з 1 лютага па 30 красавіка (Br 1 мільён. 457 тысяч 850).

Усталяваны таксама сярэднедушавыя мінімальныя спажывецкія бюджэты маладой сям'і з трох чалавек - Br 1 мільён 623 тысячы 590, працаздольнага насельніцтва - Br 1мільён 955 тысяч 940, пенсіянераў - Br 1 мільён 519 тысяч 840, студэнтаў - Br 1 мільён 505 тысяч 10, дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў - Br 1 мільён 202 тысячы 460, дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў - Br 1 мільён 443 тысячы 280, дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў - Br 1 мільён 704 тысячы 280.

У міністэрстве растлумачылі, што Законам Рэспублікі Беларусь «Пра фармаванне і выкарыстанне мінімальнага спажывецкага бюджэту» ўсталявана прававая аснова вызначэння і выкарыстання МПБ. Мінімальны спажывецкі бюджэт уяўляе сабою выдаткі на набыццё набору спажывецкіх тавараў і паслуг для задавальнення асноўных фізіялагічных і сацыяльна-культурных запатрабаванняў чалавека.

Мінімальныя спажывецкія бюджэты ўсталёўваюцца штоквартальна пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ў коштах апошняга месяца квартала для шасці сацыяльна-дэмаграфічных груп і дзвюх сем'яў рознага складу.

МПБ ужываецца як сацыяльны нарматыў для прагназавання змен узроўня жыцця насельніцтва, узмацнення сацыяльнай падтрымкі, якую патрабуюць грамадзяне, абгрунтавання мінімальных памераў дзяржаўных сацыяльных гарантый.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Санслужбы горада і раёна прыпынілі працу 12 аб'ектаў гандлю з грубейшымі парушэннямі норм санітарыі, у 98 магазінах выявілі таксама пратэрмінаваныя прадукты.

**Глыбокае.** Толькі дзве гаспадаркі раёна будуць сёлета вырошчваць лён, французскай селекцыі на больш як тысячы гектараў і яшчэ 3 калгасы – бульбу, план сяўбы 21,5 тысячы гектараў.

**Віцебск.** Пасля затрымкі выплат зарплаты за люты рабочыя домабудаўнічага камбіната адмовіліся працаваць, хваляванні спыніліся, калі людзям пачалі выдаваць грошы.

**Наваполацк.** Пасля праверкі ў мясцовай прадпрымальніцы адабралі ў даход дзяржавы 30 жаночых і мужчынскіх шуб і паліто на 325 млн. рублёў і далі яшчэ штраф 3,5 млн. рублёў.

**Полацк.** З дапамогай электронных праграм Skype на прадпрыемстве ААТ "Шкловалакно" спецыялісты пачалі вырашаць асноўныя камерцыйныя пытанні і весці перамовы.

**Ушачы.** Суд сурова пакараў вандалаў, якія скралі і прадалі 38 пліт з мемарыяльнага комплексу "Прарыў", двое з іх селі ў турму на 7 і 6 гадоў, адзін атрымаў 5 гадоў "хіміі".

**Лепель.** Паблізу райцэнтра міліцыя затрымала машыну і мікрааўтобус, у якім перавозілі 1575 літраў гарэлкі і спірту без дакументаў, у гаражы ў Віцебску знайшлі яшчэ 1400 л.

**Лёзна.** Каб не дапусціць падтаплення падворкаў спецыялісты аварыйна-выратавальнага атрада МНС "Віцязь" узарвалі тоўсты лёд на рацэ Чарніца, бо талая вада рэзка прыбывала.

**Віцебск.** Пасля гібелі летась у Глыбокім маладога будаўніка прыватнай віцебскай фірмы яе дырэктара аддалі пад суд, а само вытворча-гандлёвае прадпрыемства могуць закрыць.

**Докшыцы.** На тэрыторыі Вітуніцкага лясніцтва ноччу пры пагрузцы ў мікрааўтобус драўніны карэльскай бярозы злавілі і выпісалі штраф 13,4 мільёна рублёў браканьерам.

**Віцебск.** Мясцовы Нацыянальны акадэмічны драмтэатр імя Я. Коласа выйшаў на 3-е месца ў Беларусі па папулярнасці, за год яго спектаклі паглядзелі 113 тысяч гледачоў.

**Полацк.** Мясцовы лясны каледж па рашэнні ўрада Беларусі далучылі да Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта ў якасці абасобленага падраздзялення.

**Глыбокае.** Вучань 6 класа Чарневіцкай СШ Юліян Казак стаў пераможцам штогадовай экалагічнай акцыі, сабраў 16 тысяч пластыкавых бутэлек, па раёну за год – 120 тыс. тары.

**Паставы.** Былы настаўнік Варапаеўскай СШ Іосіф Зямчонак ў Польшчы стаў доктарам навук, выкладчыкам Варшаўскага ўніверсітэта і перадаў музею працу пра К. Тызенгаўза.

**Віцебск.** Заключны перадсезонны трэніровачны збор футбалісты ФК "Віцебск" правялі ў Турцыі, перад камандай паставілі задачу вярнуцца гуляць у вышэйшай лізе чэмпіянату РБ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Глыбокім з 21 па 28 красавіка праходзіць Фестываль праваслаўнай культуры «Кладезь»

■ Ул. Скрабатун

**Цягам гэтага тыдня ў Глыбокім праходзіць Фестываль праваслаўнай культуры «Кладезь». Адкрыўся ён хрэсным ходам ад сабора Нараджэння Багародзіцы да Цэнтральнага пляца горада, дзе адбыўся малебен на пачатак добрай справы ля абразоў з часцінкамі святых мошчаў.**

Фестываль праваслаўнай культуры «Кладезь» стаўся ўжо традыцыйным на Беларусі і штогодзён ахоплівае да 50 гарадоў краіны.

Праграма сёлетняга фестывалю досыць насычаная. На Цэнтральным пляцы арганізаваная выстава-кірмаш, дзе можна набыць праваслаўныя іконы, кнігі, кампактдыскі з рознымі папулярнымі фільмамі, дзе так ці інакш адлюстраваная праваслаўная тэматыка. Пры наведванні гэтага гандлёвага палатачнага павільёну і беглым прачытанні шыльдаў даведваешся, што ў гэтым фестывалі бяруць удзел некаторыя вядомыя беларускія праваслаўныя манастыры і прыходы: Беразвецкі Свята-Міхайлаўскі жаночы манастыр (г. Глыбокае), прыход «Неупиваемая чаша» (г. Мінск), Свята-Елісавецінскі манастыр, Свята Елісееўскі Лаўрышаўскі мужчынскі манастыр...



На працягу тыдня ў Гарадскім цэнтры культуры ў праекце «Добрае кіно» будуць паказаныя фільмы: «Дыжыор», «Вялікдзень», «Пелікан», «Туман. Радзіма – адна на ўсе часы», «Прыпавесці», «Тры словы аб дараванні». Уваход на ўсе кінасеансы вольны.

На Цэнтральным пляцы штодня будуць праходзіць прадстаўленні лялечнага тэатра «Батлейка» для дзяцей, а таксама выстава, прысвечаная гісторыі беларускай рукапіснай кнігі, якая існавала ўжо ў часы Еўфрасінні Полацкай.

З 21 па 28 красавіка ў Глыбокім будзе прысутнічаць каўчэг з часцінкамі мошчаў святой роўнаапостальскай Марыі Магдаліны. З каўчэгам у горад прыбылі абразы з часцінкамі мошчаў святых першавярхоўных апосталаў Пятра й Паўла.

Кожны дзень а 9-й у глыбоцкім Кафедральным саборы будзе адбывацца малебен аб здароўі. Штодня будуць праводзіцца розныя сустрэчы-гутаркі на актуальныя тэмы нашага жыцця: праект «Моладзь і праваслаўе» з відэапрэзентацыяй; праект «Праваслаўныя святыні Беларусі» – «Сцяжынкі да святыняў роднага краю» з відэапрэзентацыяй; праект «Агульная справа» – «Праўда аб алкагольнай залежнасці»; праект «Медыцына і праваслаўе»; праект «Дыскусійны клуб Фама» – сустрэча-гутарка «Талент і сэнс жыцця» і іншыя.

Фестываль закрываецца ў нядзелю 28 красавіка на Цэнтральным пляцы ўдзячным малебнам.

**На Цэнтральным пляцы ў рамках фестывалю прысутнічае выстава "Гісторыя беларускай рукапіснай кнігі".**

– Раней кнігі каштавалі дорага, кажа Тарас Кучынскі (у капялюшы), краязнаўца і мастацтвазнаўца з Мінска. Кошт некаторых дасягаў ў 500 кароў, і не кожны магнат мог яе набыць. А чаму так дорага? Дорага таму, што кнігі пісаліся не на паперы, а на пергаменце, г.зн. на скуры. На выраб аднаго аркуша пергаменту ішла адна скура каровы. Гэта пры тым, што на выраб аркуша была прыдатная не ўся скура каровы, а толькі невялічкі яе кавалачак. А ў кнізе – 500 старонак!

– Даўней манах браў нейкую кнігу і ішоў яе перапісваць,– працягвае сп. Тарас,– перапісваў гадамі, магло гэтае перапісванне доўжыцца і пяць гадоў. На час Еўфрасінні Полацкай прыпадае цэлая рэвалюцыя ў развіцці рукапіснай кнігі. Менавіта тады адбыўся падзел працы, які значна скараціў тэрмін перапісвання кніг. Зразумелі, што як і ў свецкім жыцці, так і ў манаскім: адны людзі - добра малююць, іншыя – добра пішуць, а ў іншых добра атрымліваецца выраб вокладкі. То ўжо над вырабам рукапіснай кнігі працавалі некалькі манахаў. Але толькі гадоў праз сто даўмеліся, што падзяляць можна не толькі працу, але і кнігу на аркушы. То цяпер адзін манах браў тыя аркушы, дзе трэба было толькі пісаць, іншы браў тыя аркушы, дзе трэба было маляваць карцінкі, трэці рабіў застаўкі. Ужо не трэба было чакаць адзін аднаго: калі нехта напіша старонкі, а потым нехта пасля яго будзе рабіць малюнкі.



Хрэсны ход ад сабора Нараджэння Багародзіцы да Цэнтральнага пляца.



Цэнтральны пляц. Малебен на пачатак добрай справы ля абразоў з часцінкамі святых мошчаў.

# Што такое вясновыя палы і якая працягласць сезона масавых травяных палаў?

■ А. Андрыеўскі, *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

**Спальванне сухой травы ўвесну атрымала назву «Вясновыя палы». Сезон масавых травяных палаў доўжыцца не больш за трох-чатырох тыдняў: з часу сыходу снегу і высыхання сухой леташняй травы на адкрытых участках - да пачатку актыўнага росту маладой зялёнай травы.**

У апошняе дзесяцігоддзе вясновыя палы сухой травы значна пачасціліся. Практычна адзіным эфектыўным спосабам барацьбы з травянымі паламі з'яўляецца іх прадухіленне, якое патрабуе арганізаваных і ўсвядомленых дзеянняў як з боку органаў улады, сельскагаспадарчых і лесагаспадарчых арганізацый, так і максімальнай адказнасці і асцярожнасці з боку грамадзян.

Па якіх прычынах узнікаюць травяныя пажары? *(Такія пажары могуць паўстаць па натуральных прычынах, напрыклад, ад маланкі. Але ў большасці сваёй – гэта праслаўуты чалавечы фактар: хуліганскія дзеянні, простая неасцярожнасць: пакінутае без нагляду вогнішча, кінуты недакурак, іскра з глушыцеля аўтамабіля ці матацыкла, наўмыснае выпальванне травы сельскагаспадарчымі арганізацыямі).*

Вельмі часта гаспадары, наводзячы парадак на сваіх падворках, спальваюць сухую расліннасць. Бо ў народзе існуе міф, што спальванне сухой расліннасці карысна для глебы. Ці так гэта?

Сухая трава пасля зімы, у першую чаргу, абараняе, засцерагае зямлю. Леташняя трава – гэта жывы дом для вельмі вялікай колькасці казурак і жывёл, такіх як жабы, мышы, яшчаркі. Чамусьці думаюць, што ў траве і лісці зімуюць толькі шкоднікі раслін. А тады карысныя казуркі жывуць дзе? Яны ўсе жывуць пад абаронай травы, і падчас пала, асабліва калі ідзе кольцавы агонь, рэдка каму з іх атрымоўваецца ўцячы ад агню. Леташняя трава пасля дажджу стварае вільготнае пажыўнае асяроддзе для захавання і прарастання насення – спрыяльныя ўмовы для насення аднагадовых, ды і шматгадовых раслін, якія ўвосень насыпаліся з травы на зямлю. Для аднагадовых раслін – гэта адзіны спосаб размнажэння. Знікла трава – высыхае вялікая частка насення. Лішняй сухой травы не бывае. Яе дружна і хутка перапрацоўваюць дажджавыя чарвякі, ператвараючы ў найкаштоўнае ўгнаенне, уносячы яго ў глыбіню глебы да каранёў раслін, і адначасова робяць глебу друзлай, жывой. Сухая леташняя трава – не смецце, а неацэнная сілкаванне, жылы дом, прытулак, умовы для жыцця, створаныя самой прыродай.

# Гвалт у доме

Дз.А. Марціновіч
псіхолаг АСАІР ТЦСАН,
тэлефон даверу: 2-33-92

**Праўдзіва шчаслівы той, хто не адчувае гвалты…**
*Гарэгін Нжздзе*

Хатні гвалт (бытавы) – гэта гвалт, які паўтараецца адным партнёрам у адносінах да іншага ў блізкіх адносінах, у першую чаргу ў шлюбе. Можа выяўляцца ў форме фізічнага, псіхалагічнага, сэксуальнага і эканамічнага гвалту. Хатні гвалт часта суправаджаецца гвалтам над дзецьмі і жорсткім абыходжаннем з блізкімі людзьмі. Хатні гвалт складаецца звычайна з 4 стадый:

**1) Нарастанне напругі ў сям'і.** Узрастае незадаволенасць у адносінах і парушаюцца зносіны паміж членамі сям'і. На гэтай стадыі ахвяра імкнецца ўціхамірыць агрэсара.

**2) Гвалтоўны інцыдэнт.** Адбываецца ўспышка жорсткасці вербальнага, эмацыйнага ці фізічнага характару. Суправаджаецца лютасцю, спрэчкамі, абвінавачваннямі, пагрозамі, запалохваннем.

**3) Пагадненне.** Крыўднік прыносіць выбачэнні, тлумачыць прычыну жорсткасці, перакладае віну на ахвяру, часам адмаўляе тое, што адбылося ці пераконвае ахвяру ў перабольшанні падзей (раздзіманне з мухі слана).

**4) Спакойны перыяд у адносінах (мядовы месяц).** Гвалтоўны інцыдэнт забыты, крыўднік дараваны. Фаза завецца «мядовы месяц» таму, што якасць адносінаў паміж партнёрамі на гэтай стадыі вяртаецца да першапачатковага.

Пасля «мядовага месяца» адносіны вяртаюцца на першую стадыю, і цыкл паўтараецца. З цягам часу кожная фаза становіцца карацей, успышкі жорсткасці пачашчаюцца і прычыняюць большую шкоду. Ахвяра становіцца не ў стане ўрэгуляваць сітуацыю самастойна.

Узровень грамадскай памяркоўнасці да праблемы хатняга гвалту вар'іруецца ў залежнасці ад асаблівасцяў нацыянальнай культуры. Так напрыклад, у Францыі прадугледжана крымінальная адказнасць нават за славесную абразу ўнутры сям'і. У былых жа савецкіх краінах пакуль няма асобнага закона пра прадухіленне хатняга гвалту. Дзяржава не мае права ўмешвацца ў прыватнае жыццё да факту здзяйснення гвалту на этапе яго прадухілення. Нарматыўныя ж акты накіраваныя не на папярэджанне, а на ліквідацыю наступстваў, якія здарыліся і пачынаюць дзейнічаць толькі пасля факту здзяйснення гвалту.

Штодня ў рэспубліцы ў органы ўнутраных спраў паступае каля 500 паведамленняў пра факты сямейна-бытавых канфліктаў, з якіх звыш 70% складаюць выпадкі хатняга гвалту ў адносінах да жанчын і дзяцей. Аднак гэта толькі вяршыня айсберга: значная колькасць выпадкаў гвалту не фіксуецца, паколькі шматлікія жанчыны міраццa з яго праявамі. У некаторых людзей можа паўстаць лагічнае пытанне – «Але як можна з такім мірыцца?». Адбываецца гэта часцей таму, што асобы, якія падвергліся гвалту, часта пакутуюць спадарожнымі засмучэннямі псіхікі, найболей распаўсюджаным з якіх з'яўляецца сіндром набытай бездапаможнасці (стакгольмскі сіндром). Людзі з такім захворваннем не ўяўляюць сваё жыццё без гвалтаўніка, дакладней, яны ўяўляюць яе яшчэ горш, чым яна ёсць цяпер. Дзеці ж, якія сталі сведкамі хатняга гвалту, пераймаюць гэту мадэль паводзін і прайграваюць яе ў наступным пакаленні, г.зн. ужо ў сваіх сем'ях.

Запомніце, калі ласка, калі чалавек падняў на вас руку, не важна завошта, гэта азначае толькі адно – вы для яго не чалавек, а рэч. Дакладней, рэч, якая знаходзіцца ў уласнасці і таму ён вольны ёй распараджацца, як уздумаецца. Любое растанне, нават жаданае, з нялюбым чалавекам – поўнае сумневаў. Але на яго трэба вырашыцца, каб зрабіць крок у будучыню і пачаць ствараць сваё новае ШЧАСЛІВАЕ жыццё.

# МУС: Медыкі, якія аднойчы ўзялі хабар, як правіла, не спыняюцца

**Супрацоўнікі службы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі летась выявілі 60 фактаў хабарніцтва ў сферы аховы здароўя, з якіх 39 (65%) — за выдачу фіктыўных лісткоў непрацаздольнасці. Пра гэта паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС.**

У большасці выпадкаў медыкаў затрымлівалі за атрыманне ўзнагароджання. Самі ж наведвальнікі палікліні́к за прапанову і даванне хабару, а таксама за пасрэдніцтва ў яго атрыманні былі выкрыты тройчы.

«У асноўным нячыстыя на руку медыкі і такія ж пацыенты выкрываюцца дзякуючы аператыўнай інфармацыі, якая пазней замацоўваецца дадатковымі доказамі. Галоўнае з іх — затрыманне падазронага з доказамі злачынства», — сказаў старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах ГУБЭЗ МУС Андрэй Бяляеў.

Нядобрасумленныя ўрачы хабар бяруць розны: у сярэднім прыблізна 120—150 тысяч рублёў. Аднак сума можа вагацца як у большы, гэтак і ў меншы бок. Многае залежыць ад працягласці фіктыўнага бальнічнага, знаёмства паміж урачом і «пацыентам», спецыяльнасці доктара і інш. Часта даводзіцца дзяліцца і з пасрэднікам, часам некалькімі, якія вырашаюць пытанне аб «непрацаздольнасці».

У МУС канстатуюць, што медыкі, якія аднойчы ўзялі хабар, як правіла, не спыняюцца і працягваюць займацца незаконнай дзейнасцю, пакуль не будуць затрыманы. Паводле статыстыкі ГУБЭЗ МУС, у выяўленых летась выпадках хабар бралі тры дактары: у Сянно (Віцебская вобласць) хірург незаконна выпісваў ліст непрацаздольнасці шэсць разоў, у Мінску тэрапеўт — дзевяць, у Гомелі неўрапатолаг — 24. Апошняя ўрач-абвінавачаная асуджана на тры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору на два гады. Больш за тое, жанчына пазбаўлена права займацца ўрачэбнай дзейнасцю цягам пяці гадоў. У сталіцы крымінальная справа пакуль у стадыі судовага разгляду, а ў Сянно медыка прыгаварылі да чатырох гадоў пазбаўлення волі. Права лячыць адабрана ў яго на пяць гадоў.

Апрача крымінальнай справы за хабарніцтва, аўтаматычна медыкам інкрымінуюць і службовы падлог, які падразумявае сам факт выдачы «бальнічнага». За абодва злачынствы пазбегнуць адказнасці практычна немагчыма. А вось пацыентам могуць дараваць злосны намер. Згодна з законам асоба, якая дала хабар, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці, калі ў дачыненні да яе мела месца вымаганне хабару або калі гэтая асоба пасля давання хабару добраахвотна заявіла пра гэта. Такія выпадкі нярэдкія.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## Віншаванкі

*Таццяну Пятроўну Сіўко*

**Віншуем з нагоды юбілею Дня народзінаў**

У Вас сегодня юбилей
Да не простой, а золотой!
Поверить мы могли б скорей,
Что он у Вас сороковой.

Прелестна обликом, нежна,
Ну, как в такую не влюбиться!
Во всех делах Вы хороша,
И жизнью можете гордиться.

Не считай свои года,
Не ищи для старости причины,
Говори всегда, что молода,
Даже если есть морщины.

Все пройдет: и молодость, и жизнь,
Так зачем же рано стариться?
Лет до ста сумей прожить,
Лет до ста мужчинам нравиться!

*Родныя і сябры*

**Людміла Ардынская**

## Родны кут

Цягнік прыбыў у горад на світанку.
Паўзмрок і сцюжа, валадарніцай зіма.
Мне на Савецкую. Таксі? Пайду сама.
Агні Глыбокага асвецяць шлях да ранку.
Дзе б ні жыла, мой горад – родны самы.
Вось плошча новая, яна яшчэ пустая.
Тут стары горад быў, не зберaглі, нястала.
Як у мінулым, паўстаюць выявы храмаў.
Прачнуўся горад, у вокнах больш святла.
Няхай жыве ў кожным толькі шчасце.
Нам абярэгам ад жыццёвага няшчасця
Агонь любові роднага жытла.
Чакае хата так аддана і цярпліва,
Калі ўзыду я на парог з дарогі.
Лячыце, сцены, боль мой і трывогі,
Што нас у жыцці чапляюць мітуслівым.
Няма каму сустрэць тут соллю-хлебам.
Калісьці бохан пах саспелым жытам.
А колькі хатай ліха пеража́ыта!
І продкаў лёс нялёгкі быў пад небам.
Сям'я і дом. У жыцці што даражэй?
Яны – свята ў акне, што вызначыць дарогу.
Пераадолець нам нягоды дапамогуць.
Савецкая. Мой кут бліжэй, бліжэй.



## Шаркоўшчына моцна пацярпела падчас паводкі на Дзісне



**Выратавальнік Аляксандр Новікаў дапамагае жыхарам выратаваць свойскую жывёлу і птушку.**

У Шаркоўшчыне для жыхароў вуліцы Савецкай сапраўдным бядой стала сёлетняя паводка. Можна сказаць, што ўзровень вады падымаўся літаральна на вачах. Калі вечарам у сераду вада падабралася ўшчыльную да падворкаў і пабудоў, то ўжо на наступны дзень жыхары, выйшаўшы ва двор, рызыкавалі не тое што ногі замачыць, а адкрыць купальны сезон.

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# У дзень нараджэння – з восцямі ў руках

Прырода шчодра надарыла нашу краіну, у нас шмат лясоў, азёр і рэк. Месцы ў Беларусі сапраўды вельмі прыгожыя, і гэта прыцягвае ў лясы і на азёры грамадзян, як для актыўнага адпачынку, так і проста пабыць на свежым паветры. Да актыўнага адпачынку смела можна аднесці рыбалку і паляванне. Чым цяплей становіцца надвор'е, тым актыўней становіцца рыба і, вядома, рыбакі, асабліва ў выходныя дні. Практычна на кожным вадаёме сустрэнеш чалавека з вудай ці спінінгам, уловы цешаць, але, на жаль, засмучае браканьерства. Яшчэ вельмі часта можна сустрэць і чалавека з сеткай, мярожай, восцямі.

Штотыдзень супрацоўнікі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па краіне затрымоўваюць дзясяткі браканьераў, канфіскоўваюць сотні кілаграмаў незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, дзясяткі адзінак зброі, не выключэннем з'яўляецца і праца супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Толькі за перыяд з 15 па 22 красавіка працаўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымана 20 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, у браканьераў канфіскавана 8 астрог, пад'ёмныя сеткі і розныя браканьерскія снасці, 16 кг. незаконна здабытай рыбы. Людзі, нібы адурманеныя ўвесну цяплом, карыстаючыся бездапаможнасцю рыбы, што нерасціцца, хапаюць яе рукамі, б'юць восцямі, палкамі, ловяць сеткамі, нягледзячы на строгае заканадаўства і адказнасць. За адну незаконна здабытую рыбу парушальнік заплаціць дзяржаве мінімум 1 млн. 350 рублёў, а тыя, хто асабліва праславіліся, могуць пазбавіцца волі.



**Рака Пескаватка, раён кансервавага завода. Наколькі неасцярожная рыба пад час нерасту, бачна на прыкладзе гэтага здымка. Хлопец хапае рукамі шчупака, які згубіў пільнасць. Праўда, шчупаку, усё ж удалося выслізнуць з рук юнага браканьера.** *Фота Кастуся Бахіра.*

Так, толькі за 15 красавіка 2013 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з працаўнікамі міліцыі затрымана ў г. Глыбокае 3 грамадзян, якія ажыццяўлялі незаконную здабычу рыбы забароненымі спосабамі.

17 красавіка супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента «Ахова» затрыманы жыхар г. Глыбокае, грамадзянін Г, які пры дапамозе спінінга здабыў адну асобіну шчупака, але спосаб лоўлі быў абраны не ўдала – «багрэнне», г.зн. учапіў стаячага ў вадзе шчупака блешняй, а такі спосаб лоўлі рыбы забаронены, дазволена толькі ў закід, у праводку. Затрыманы грамадзянін яшчэ спрабаваў аказаць непадпарадкаванне працаўніку міліцыі, на вачах у якога ўсё адбывалася. Зараз парушальніка чакае не толькі штраф за браканьерства, але і штраф за непадпарадкаванне.

20 красавіка каля 16 гадзін на возеры Алойсберг г.п. Падсвілле затрыманы мясцовы жыхар, грамадзянін П., які з дапамогай восцяў спрабаваў здабыць шчупака, але не паспеў, бо яго затрымалі інспектары, але штраф за свае дзеянні заплаціць прыйдзецца.

У гэты ж дзень у в. Ваўкі Пастаўскага раёна інспектарамі сумесна з працаўнікамі міліцыі затрыманы жыхар г. Паставы грамадзянін Н., які вырашыў адзначыць свой дзень нараджэння з восцямі ў руках, але вось – не паспеў, інспектары замест віншаванняў склалі пратакол. Крыўдна, але дзень нараджэння трэба адзначаць дома з роднымі і блізкімі людзьмі, а не з восцямі ў руках на рацэ.

21 красавіка на возеры Гінькава Глыбоцкага раёна інспектарамі затрыманы жыхар г. Дзісна Мёрскага раёна грамадзянін К., які таксама пры дапамозе восцяў спрабаваў здабыць шчупака, але не паспеў. Штраф у памеры 1 млн., а можа і больш, павінен адбіць жаданне лавіць незаконна рыбку.

Здзіўляе сквапнасць асобных грамадзян, якія хапаюць рыбу, што нерастуе, рукамі... Людзі, дайце рыбе адкласці спакойна ікру. Калі Вам падчас «кахання» з жанчынай перашкодзіць, напэўна, будзе не дужа прыемна, дык і рыба таксама жывая істота. Закон не дазваляе ўжываць такія пакаранні, як у часы Вялікага княства Літоўскага (секчы пугамі, адразаць вуха ці пакараць смерцю), а часам здаецца, што шкада, тады б людзі трохі задумаліся.

Хацелася б звярнуцца да рыбаловаў-аматараў і нагадаць пра неабходнасць ажыццяўлення лоўлі рыбы толькі ў дазволеных месцах, у далечыні ад ліній электраперадач, асабліва высакавольтных. Так, за 2012 год па краіне ад кантактаў з ЛЭП загінула 8 рыбаловаў, чалавечае жыццё даражэй любой, самай буйной і жаданай рыбы.

Супрацоўнікі інспекцыі выказваюць падзяку ўсім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерствам і спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Пра ўсе вядомыя і здзяйсняныя факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8 - 02156 - 2-86-70 - кругласутачна. Начальнік інспекцыі: маб. 897-23-02, інспектары: 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78, 645-66-78 МТС.



# Вясновыя палы сухой травы – небяспечныя!



**А. Андрыеўскі,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

Кожны год увесну б'юць трывогу работнікі МНС: як толькі сонца пачынае падсушваць зямлю, то тут, то там да неба цягнуцца струменьчыкі белага з'едлівага дыму. Часцей за ўсё так званыя руплівыя гаспадары, наводзячы парадак на сваіх падворках, пазбаўляюцца ад леташняга смецця, лісця і травы з дапамогай агню: шоргнуў запалкай - і парадак, часам выпадковы мінак кіне непатушаную цыгарэту, а бывае, што і работнікі СПК «неўзаметку» паляць мінулагодняя рэшткі жніва. Адзе ж досыць аднаго парыву ветра - і полымя ўмомант разгараецца, захопліваючы велізарныя тэрыторыі, нават ад невялікага вогнішча на прысядзібным участку загараюцца пабудовы, машыны, гінуць людзі.

14 сакавіка 2012 года ў в.Навасады Брэсцкага р-на мужчына 1946 г.р. дапамагаў суседцы па гаспадарцы. Пасля працы на прысядзібным участку, вярнуўся дахаты і вырашыў адпачыць на лаўцы, запаліў і кінуў запалку ў сухую траву, у выніку чаго адбылося ўзгаранне, полымя пачало хутка распаўсюджвацца па тэрыторыі. Пенсіянер стаў тушыць агонь, але занепрытомнеў і зваліўся ў падпаленую траву. Прыбыўшымі падраздзяленнямі МНС пажар быў ліквідаваны, мужчына з 80% апёкамі цела быў дастаўлены ў лякарню, дзе, на жаль, праз 3 сутак сканаў.

Б'юць трывогу і эколагі: пры выпальванні сухой травы парушаецца каранёвая сістэма раслін, ад высокай тэмпературы глеба і расліннасць бяднеюць, знішчаецца ўрадлівы пласт, гінуць карысныя парасткі, казуркі і жывёлы. Дым, які вылучаецца падчас гарэння сухой травы, смецця, вельмі таксічны, шкодзіць здароўю людзей і наносіць непапраўную шкоду экалогіі. Асабліва небяспечныя такія падпалы на тэрыторыях, забруджаных радыёнуклідамі, бо ў выніку радыёактыўны «бруд» узнімаецца і разлятаецца на шматлікія кіламетры.

Узнікае простае пытанне: «Чаму, ведаючы пра наступствы, людзі працягваюць так паступаць?»



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»







## ПАНЯДЗЕЛАК, 29 красавіка



**06.00**,**07.15,08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,23.35** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.05 «Там, где живет любовь»** (Украина).
**12.15** Диалоги о цивилизации.
**12.50** Вокруг планеты.
**13.35** Eurovision. Итоги недели.
**13.55** Журналистское расследование.
**14.25** Тайны следствия.
**15.15**, **18.40** Новости региона.
**15.25** Анимац.фильм **«Алеша Попович и Тугарин Змей»**
**16.50** Фильм «Битва за наследство».
**17.45** Док.сериал «Мистические истории» (Украина).
**19.20** Спец.репортаж АТН.
**19.40**, **23.15** Зона Х.
**20.00** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.40** Телефильм АТН «Символ Победы».
**22.05 «Сваты-6»**
**23.50** День спорта.
**00.05** Сериал **«Мастера ужасов»**. Фильм **«Шкуры»**



**06.00**, **08.30**Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Торговый центр»**.
**12.05** «Доброго здоровьица!»
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Модный приговор».
**14.15** «Пока еще не поздно».
**15.00** «Легендарные кинокомедии».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Обратный отсчет. Вспомнить все».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** ОНТ представляет: «Открытый формат».
**21.55** Премьера. «Лиллехаммер». Заключит.серия.
**22.55** Фильм «Коломбиана».
**00.50**-01.20 Ночные новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детектив **«Подруга особого назначения»**
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.50** Док.сериал «Чудеса природы» (Чехия). 1с.
**11.50 «Золотой теленок»**. 1-я и 2-я серии.
**14.55** Комедия **«Кидалы в игре»** (Россия).
**16.50** Белорусское времечко.
**17.55** Детектив **«Подруга особого назначения»**
**19.00 «Близнецы»**
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Комедия «Кидалы в игре» (Россия).
**23.20** Док.сериал «Чудеса природы» (Чехия). 1-я серия.
**23.55** Овертайм.
**00.25** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро «.
**09.00** «Неделя».
**10.10** «Представьте себе».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «По закону».
**11.10** «Званый ужин».
**12.05** «NEXT 2». Сериал.
**13.00** «Женщины ХХ века» «Мата Хари - имя нарицательное».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** СТВ представляет: «Звездный ринг». Новый сезон. Вилейка против Шклова.
**15.50** «Как надо».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50 «Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщине»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40 «УЛЬТРАФИОЛЕТ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна».
**00.45** «Адская кухня - 2».



**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**7:55** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**8:20** Zeroes Heroes
**8:55** Дакументальная гадзіна: «Кухня», дак. фільм
**9:25** Два на два (тэледыскусія)
**9:50** Euromaxx
**10:20** Форум (ток-шоу)
**11:05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Асаблівы вязень»
**11:55** Фільматэка майстроў: **«Хітрыкі»**
**13:30** Эксперт (сатырычная праграма)
**14:05** ПраСвет
**14:30** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**14:55** Zeroes Heroes
**15:30** Дакументальная гадзіна: «Кухня», дак. фільм
**16:00** Два на два (тэледыскусія)
**16:25** Моўнік (лінгвістычная праграма)
**16:40** «Мітумба: шляхам сэканд-хэнду»
**17:35** Відзьмо-невідзьмо : выд. 28
**18:05** Еўропа сёння
**18:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**19:00** інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір)
**19:15** Dэвайс
**19:20** Агляд медыяў
**19:30** Гарачы каментар
**20:00** Навіны
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Гарачы каментар
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Не прапусці!
**21:30** Мінуў дзень
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Хітрыкі»**
**23:20** Студия «Белсат»
**0:55** Асабісты капітал
**1:15** Аб'ектыў
**1:45** Не прапусці!
**2:05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы







